«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
*Якуб КОЛАС*

№ 71 (4631)

17 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
*Рэдакцыя.*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Разделенные

Впервые Беларусь празднует День народного единства. Но сколько ни говори «сахар», во рту слаще не становится.

Если, назначая праздник на 17 сентября, имели в виду объединение Западной и Восточной Беларуси в 1939 году, то это радостная для государства, но по-человечески сложная для многих белорусов и белорусских поляков дата. В моей семье, например, существует легенда, что прадед из Западной Беларуси очень хотел этого объединения и агитировал всю округу. Для конспирации он садил на воз местную чокнутую старуху и ехал к Ракову, к границе, за большевистскими листовками. Прадед хотел в Советы, потому что они обещали землю. Но обманули. Не дали. И, конечно, мы можем поговорить про большой обман, но вряд ли это задумывалось, когда в нынешнем году учредили новый государственный праздник День народного единства.

Очевидно, что после президентских выборов под посылом «народное единство» имелся в виду период нынешний. Вот только новый праздник оказался от реальности еще дальше, чем обещания большевиков. Ведь главный шаг к примирению и уходу от конфронтации так и не сделан. Я имею в виду политическую амнистию и прекращение репрессий. Оказывается, этому воспротивились силовики. Как объяснил Юрий Воскресенский, они опасаются новой волны протестов, если те, кто уже сидит, не покаются и не признают свою вину. Поэтому никакой амнистии и не случилось.

Хотя весь цивилизованный мир нас к этому призывает, призывают лидеры религиозных конфессий, но – нет. Силовики опасаются… Будто государства создаются для них и под них…

Алгоритм думания людей в погонах – известный. В свое время они хотели закрыть ночные клубы и разрешить торговлю спиртным только с 9.00 до 22.00. Дай волю – так они ввели бы график, по которому людям позволено выходить из дома. Ведь если заставить всех жить по командам «Направо!», «Налево!», «Кругом!», «Сесть!», «Встать!», то жизнь силовых ведомств становится намного проще. Только вот общества так выстраивать не получается. Сколько ни было в истории попыток – все заканчивались крахом. Потому что не желают мирные люди «Кругом!».

Не желают жить по команде.

Не хотят быть одинаковыми, усредненными, похожими...

Мы разные. Внешне, в привычках, в пристрастиях, в вероисповедании, в политических взглядах. И единение – это не подравнять всех дубинками под единый стандарт, а научиться сосуществовать в этой разности ради общей цели – своего государства.

Если десятки тысяч человек вынуждены бежать из страны – это разъединение. Если десятки тысяч прошли через тюрьмы или в них находятся – это чистки. Если в стране страшно высказать свое несогласие, свою позицию – это нечто, прямо противоположное примирению и единству.

Так, скажите, что мы празднуем?

Вот недавно по всем СМИ прошла информация, что судья Фрунзенского района Минска по фамилии Бугук наказала минчанку Викторию Лёвину штрафом в 920 долларов в эквиваленте за бело-красно-белый цвет волос. За бело-красно-белую одежду наказывали, за носки, за трусы на балконе… Но чтобы за цвет волос?! Это немыслимо для любой страны мира!!! Ну просто дикость!

Но ведь не останавливаются. И белорусский агитпроп уже открыто клеймит «нациками» и «фашистами» тех, кто за БЧБ. Причем идеологи уверены, что делают доброе дело, поступают по-государственному.

Но, господа-товарищи! А если по вашему примеру кому-нибудь придет в голову клеймить василек – неофициальный символ Беларуси и официальный символ нашего нового государственного праздника, Дня народного единства? Ведь именно василек являлся символом 22-й добровольческой кавалерийской дивизии СС «Мария Терезия»...

Вот только цветок ни в чем не виноват… Точно так же, как ни в чем не виноват бело-красно-белый флаг. Поэтому не надо по надуманному поводу делить белорусов на своих и врагов. Это точно не путь к единству.

Кстати, вы знаете, что по-научному василек называется centaurea – от слова «кентавр». Согласно древнегреческому мифу, цветок получил такое название после того, как с его помощью кентавр Хирон исцелился от яда змееподобного многоголового чудовища – Лернейской гидры – символа зависти, войн и раздора.

Вот бы и нам исцелиться, как в тех мифах!

Сегодня мы празднуем День народного единства, и именно василек – символ праздника. Но никакого единства нет. И в провластном лагере, и в оппозиционном одни разговоры: «Когда же прекратится эта охота на ведьм? Когда и кто исцелит нас от яда вражды?» Увы, пока ни одного шага к этому не сделано.



# СЁННЯ – ДЗЕНЬ НАРОДНАГА АДЗІНСТВА

*Паразуменне мільёнаў людзей розных поглядаў можа быць пры адной умове: калі ў краіне будуць верхаводзіць не заангажаваная прапаганда ўладных структур альбо асобных палітычных груповак, не рэпрэсіўныя дзеянні з боку дзяржавы, а імкненне ўсіх-усіх – і шараговых грамадзян, і чыноўнікаў сярэдняй рукі, і кіраўнікоў найвышэйшага рангу – дзейнічаць у адпаведнасці з законамі, Канстытуцыяй, маральнымі прынцыпамі, ў аснове якіх – **ПРАЎДА** і **СПРАВЯДЛІВАСЦЬ.***

*Менавіта гэтага і дабіваецца дэмакратычная супольнасць Беларусі.*

ЗАКУЛІССЕ

## Слёзы Вольгі Няфёдавай

Усе дзяржслужачыя ў нашай краіне даўно ведаюць няпісанае правіла: калі хочаш зрабіць кар'еру, мусіш спадабацца самаму галоўнаму начальніку. Любым спосабам. На нейкай нарадзе з яго ўдзелам хвалебны спіч выдай. На дажынках падзякуй за бацькоўскі клопат. На тэлекамеру дрыжачым голасам скажы пра гаранта стабільнасці і зберагальніка незалежнасці. Удасца, падфарціць – і хуценька палезеш ты па службовай лесвіцы туды, куды лезуць многія, з мылам і без мыла, забыўшыся на прыстойнасць і чалавечую годнасць.




Як мне здаецца, падобны шлях абрала сабе і акцёрка Купалаўскага тэатра Вольга Няфёдава, якой нядаўна Аляксандр Лукашэнка прысвоіў званне заслужанай артысткі. Чым жа яна яго заслужыла? Акцёрскім майстэрствам? Галоўнай роляй у спектаклі, які стаў адкрыццём на міжнародным фестывалі? А можа, яна была адзначана хоць бы айчыннай «Крыштальнай Паўлінкай» – тэатральнай прэміяй, якая сведчыць: ты – лепшая ў прафесіі? Ды не. Нічога з пералічанага з Вольгай Няфёдавай не адбылося.

А адбылася слёзная сцэна ў знішчаным тэатры, калі туды завітаў Аляксандр Лукашэнка з дзіўным падарункам – гарэлачным наборам, які і быў уручаны старажылу тэатра Генадзю Аўсяннікаву. Можа, хацеў з ім выпіць на памінках тэатра, які разам з усім народам узбунтаваўся пасля сфальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў? Цяжка сказаць. Але тое, што ў той сумнаваты момант ён выглядаў падазрона вясёлым, прызнаўшыся, што не шкадуе пра загублены тэатр, – гэта бачылі і чулі ўсе.

І вось якраз тады Няфёдава, мне паказалася, і датумкала, што настала яе зорная хвіліна. Абрынуўшы на Лукашэнку непрыхавана падхалімскі спіч, нагаварыўшы яму самых неверагодных кампліментаў, акцёрка эфектна пусціла слязу. Эфект той выглядаў танненька, сляза была менавіта акцёрскай, але гэта ўжо, як кажуць, дробязі.

Неўзабаве сярэдняй рукі акцёрка, якая не выканала ніводнай галоўнай ролі і не паставіла ніводнага ўласнага спектакля, была прызначана галоўным рэжысёрам Купалаўскага тэатра (?!). На месца заслужана праслаўленага Мікалая Пінігіна, на чые спектаклі («Тутэйшыя», «Пінская шляхта», «Ідылія», «Кароль Лір») заўсёды валам валіў народ. Паставіць нешта падобнае новая кіраўніца і не замахваецца. Яна спрабуе, набраўшы ў штат таго, хто пад руку трапіўся, рэанімаваць старыя (чужыя!) спектаклі, па сутнасці, паразітуе на дасягненнях папярэднікаў. Наўрад ці і стаўшы заслужанай артысткай, Няфёдава сыграе ці паставіць што-небудзь шэдэўральнае. Вышэй галавы не скочыш. Талент разам з пасведчаннем не выдаецца.

І ўсё ж аддамо ёй належнае. Своечасова паплакацца ў камізэльку каму трэба – гэта таксама своеасаблівы талент.

У беларускім тэатральным закуліссі, кажуць, ужо прыжыўся выраз «слёзы Няфёдавай» – беларускі адпаведнік «кракадзілавых слёз», што азначае прытворныя, фальшывыя пачуцці.

З чым мы і віншуем новаспечаную заслужаную артыстку.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

**Сёння, 17 верасня, у Кіеве, Варшаве і Вільнюсе пройдуць акцыі салідарнасці з затрыманымі ў Беларусі праваабаронцамі…**

СУМНА!

## Больш за 1600 крымінальных спраў узбуджана ў Мінску пасля масавых пратэстных акцый

*І ні адной – супраць тых, хто іх справакаваў фальсіфікацыямі на выбарах.*

**Сяргей Паско**, начальнік упраўлення Следчага камітэта па г.Мінску, паведаміў па тэлебачанні, што толькі ў сталіцы ўзбуджана больш за 1600 крымінальных спраў супраць удзельнікаў масавых мерапрыемстваў. Пад вартай толькі па адной крымінальнай справе знаходзіцца каля 50 чалавек.

Сумна, што і казаць! Людзі выйшлі адстойваць справядлівасць, свае законныя правы на волевыяўленне, а трапілі за краты. Пры гэтым, заўважце, ні адной крымінальнай справы супраць тых, хто беспрэцэдэнтнымі парушэннямі заканадаўства падчас правядзення прэзідэнцкіх выбараў справакаваў людзей на масавыя пратэстныя акцыі.

**Вадзім КУЖАЛЬ.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Эдуарду Бабарыку забаранілі ў камеры займацца ёгай

*Экс-кіраўнік ініцыятыўнай групы прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі знаходзіцца ў следчым ізалятары ўжо больш за год.*



**Эдуард Бабарыка** – заснавальнік краўдфандынгавай пляцоўкі «Улей» і сузаснавальнік пляцоўкі «MolaMola».

Яго разам з бацькам затрымалі і змясцілі ў СІЗА КДБ 18 чэрвеня 2020 года. Эдуард Бабарыка абвінавачваецца паводле ч.2 арт.243 КК Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры), яму пагражае да 5 гадоў абмежавання волі.

Пакуль не вядома пра дату пачатку працэсу, але, мяркуючы па лістах на волю, Эдуард не губляе бадзёрасці духу.

*«У мяне навін асаблівых няма, пакрысе рыхтуемся да зімы,* – напісаў ён свaёй сяброўцы **Аляксандры Зверавай**. – *Збіраем цёплыя рэчы.*

*Дазвол на занятkі спортам я так і не атрымаў (забаранілі займацца ёгай у камеры), але працягваю бегаць падчас прагулкі. Адціскаюся, прысядаю, раблю выпады, а таксама накачваю трыцэпс, біцэпс і шырокую мышцу ў пары з суседам пры дапамозе ручніка.*

*Кніг, на жаль, у чарговы раз купіць не атрымалася, але я чытаю Стывена Кінга на англійскай мове і перачытваю «Структуру Рэальнасці» Дэвіда Дойча.*

*Увогуле, са мной усё добра...»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Сергей СКРЕБЕЦ: «Кому мы сделаем лучше, если назло маме отморозим уши?»

*Бывший депутат Палаты представителей и бизнесмен **Сергей Скребец** в минувшие выходные принял участие в Минском полумарафоне – пробежал дистанцию длиной в 21,1 километра. Фото с медалью Сергей выставил на своей странице в «Фейсбуке». И моментально получил кучу негативных отзывов: мол, ну как можно было участвовать в этом «лукашистском марафоне»?! Некоторые без всякого этикета высказывались довольно резко, называли Сергея «ябатькой», заявляли, что он «прямо на бегу переодел тапки» и что такого от него точно никто не ожидал. «Народная Воля» спросила, что обо всем этом думает сам Сергей Скребец.*

**– Сергей, ну вы крутой – далеко не каждый в ваши годы замахнется на такую дистанцию!**

– Да уж, пришлось немного поупираться…

**– Но вы же читали все ругательные комментарии, которые написали в ваш адрес?**

– В принципе, я предполагал, что так будет…

Я пропагандирую здоровый образ жизни, что в этом плохого? Суть этого фото с медалью – пора перестать пить дешевые чернила, надо начинать заниматься своим здоровьем. Тогда все доживут до светлого будущего, в том числе и эти диванные комментаторы.

**– Вас упрекают в том, что своим участием в полумарофоне вы якобы поддерживаете нынешний режим…**

– Когда я был за решеткой, всем этим людям было плевать не только на меня, но и на то, что происходит в стране. А сейчас, видите ли, они проснулись после прошлогодних событий. А для меня, в общем-то, ровным счетом ничего не изменилось.

Более того, я знал, что будет шквал таких негативных комментариев. И жене сказал: сейчас опубликую свою медаль – и посыплются комментарии. Она улыбнулась, говорит: да нет, никто даже не обратит внимания. С точки зрения некоторых, оказывается, плохо, что я пробежал 21 километр…

**– Некоторые политики удаляют негативные комментарии из соцсетей…**

– Я не буду удалять, пусть всё останется.

**– Некоторые отказывались от участия в полумарафоне…**

– Ну и дураки. Ну давайте откажемся от здорового питания, от спорта – назло врагам. Кому мы сделаем лучше, если назло маме отморозим уши?..

**– А что вы вообще думаете про нынешнюю политическую ситуацию?**

– Мне, например, нравится, что у нас газ




будет по 128 долларов за тысячу кубометров, а не по 750.

Понимаете, у правительства есть определенные задачи, которые оно должно выполнять: нужно создать условия, чтобы люди могли иметь работу, зарплату, чтобы у них была крыша над головой. Это самые основные, базовые вещи, которыми занимается любое правительство в любой стране. Независимость заключается и в том, чтобы самим накормить свой народ. А кто под каким флагом бегает – это второстепенное.

**– Вы раньше партию пытались создать. Сейчас, как я поняла, политикой уже не занимаетесь?**

– Нет. Скажу так: меня уже победили. Не сломали, а именно победили.

Понимаете, у каждого есть свои обучающие программы. Я как из тюрьмы вышел – мне всё так нравится вокруг. Жизнь, свобода…

**– С этим даже и спорить трудно… Сегодня тем, кто в тюрьмах, предлагают написать прошение о помиловании. Как вы к этому относитесь?**

– Нормально. Мне тоже в свое время предлагали, но я не писал. Я тогда очень злой был. А сейчас бы написал.

**– А что поменялось?**

– Может, возраст: мне скоро 60 лет. А может, мудрость. Я много где был, весь мир объездил, в Тибете был – лучше Беларуси места нет. Здесь надо жить.

### Из личного дела

*Сергей Николаевич Скребец родился в 1963 году.*

*Бывший генеральный директор ЗАО «Торговый дом БелБабаевское».*

*В 2000 году был избран депутатом Палаты представителей, возглавлял депутатскую группу «Республика». Летом 2004 года «республиканцы» Валерий Фролов, Владимир Парфенович и Сергей Скребец провели многонедельную голодовку в знак протеста против отказа руководства Палаты представителей вынести на рассмотрение поправки в избирательное законодательство. 14 февраля 2006 года Сергей Скребец был осужден на два с половиной года лишения свободы по обвинениям экономического характера. В знак протеста против выдвинутых обвинений Скребец провел четыре голодовки, одна из которых длилась 40 дней. По амнистии срок наказания был сокращен на один год. Вышел на свободу 15 ноября 2006 после полутора лет заключения. За время заключения Сергей Скребец потерял 30 килограммов.*

*Принимал участие в нескольких кампаниях по выборам президента Беларуси.*

*Женат, отец двух детей.*

**Марина КОКТЫШ.**

ПАМЯТЬ

## …Как личное прикосновение Бориса Луценко с Небес

Надгробный памятник легендарному театральному режиссеру народному артисту Беларуси **Борису Ивановичу ЛУЦЕНКО**, который открылся вчера, 16 сентября, на Восточном кладбище Минска, – возможно, один из самых поэтичных на территории нашего главного государственного некрополя. На светлом камне из-под бронзового крыла ангела проступает легкий профиль Мастера. Но проступает лишь иногда, лишь в солнечную погоду, когда свет падает на камни под определенным углом. Такой минуты, конечно, еще надо дождаться… Но, увидев ускользающий профиль режиссера, вы наверняка почувствуете его благословение. Как личное прикосновение с Небес…

Памятник создан по проекту сценографа **Вениамина Маршака**, многолетнего творческого единомышленника Бориса Ивановича Луценко. Исполнил замысел скульптор **Евгений Добровольский**.

Работа над памятником шла без участия Министерства культуры, только под личным патронажем вдовы режиссера **Людмилы Петровны Луценко**. Во-первых, в министерстве немалая очередь на установку памятников народным артистам и художникам. А Людмила Петровна – человек выдающихся волевых качеств, она решила, что памятник должен появиться в срок – через почти полтора года со дня смерти, а не позже. Во-вторых, государственное учреждение обязано объявить творческий конкурс, собрать жюри, и не известно, выиграл бы проект Маршака в этом конкурсе или нет. А вдова всё взяла в свои руки – вплоть до оплаты. Денег было, конечно, в обрез, но зато полная свобода выбора. И уверенность, что покойный муж, ушедший полтора года назад в мир иной, одобрил бы ее поведение.

Со сценографом Вениамином Самуиловичем Маршаком режиссер проработал полжизни, они поставили немало спектаклей, стали в результате близкими товарищами. Накануне открытия памятника Вениамин Самуилович поделился своими воспоминаниями о режиссере:

– Борис Иванович был великим фантазером и в тоже время сомневающимся человеком. Все идеи он вынашивал очень долго, я приносил ему, как правило, по 10–15 проектов сценографии к спектаклю. Наш творческий процесс был очень трудоемкий, затратный, но бесконечно интересный. Луценко отличала приверженность к метафоричности, обычно он очень далеко уходил от сюжета пьесы в параллельные миры, искал там новые смыслы. Поэтому и мои декорации получались не бытовыми, а на уровне знаковости. Меня как сценографа Луценко стимулировал к неординарности, к разрушению стереотипов. Это было, порой, чревато творческими конфликтами, но мы смогли сохранить теплые дружеские отношения.

– Вспоминаю, как делали спектакль «Деметриус» по пьесе Фридриха Шиллера, – продолжал Маршак. – Он позвонил: «Срочно приходи! Через месяц этот спектакль поедет на фестиваль в Германию». Когда требовалось, он умел концентрироваться и блеснуть моментально, не мурыжа себя и меня. Спектакль начинался с огня. В прямом смысле слова. В центре сцены висел маленький портрет Лжедмитрия. Вдруг он вспыхивал и сгорал на глазах у зрителя. Эффектно и аллегорично. Конечно, открытый огонь в театре запрещен. Но тогда, в начале 1990-х, мы добились разрешения, хотя сейчас со своим опытом я никогда не решился бы на такое, потому что это очень опасно. Но Борис Иванович – человек огромного влияния и заслуг. Авторитет сделал свое дело, ради искусства даже пожарники пошли нам на уступки.




– Однажды мы поехали с Луценко в Гамбург от Чернобыльского фонда. И у меня там случилось заражение крови: порезанный палец, думал, что ерунда, пройдет, а попал на операционный стол. В общем, меня забрали в больницу. Было очень одиноко в чужой стране, совершенно один, только отошел от наркоза. Но утром в палате вдруг открывается дверь и заходит Борис Иванович Луценко. А в руках у него корзиночка с персиками… Хотя у меня с ним в тот период были еще очень официальные отношения, но вот какой он был человек. Почти 30 лет прошло, а я помню об этом, – со светлой печалью рассказывал Вениамин Самуилович.

– Как бы самонадеянно это ни звучало, но я не сомневался, что памятник Луценко должен делать я. И когда ко мне обратилась Людмила Петровна, я имел уже в голове готовые наброски. В последние годы я очень сблизился с Борисом Ивановичем, знал все его замыслы. Он не всё смог довести до конца, сам признавался, что силы на исходе. Такой уж он был художник – его одолевали бесконечные сомнения. Это определяющая черта его творческого характера. И прочитать профиль Луценко на памятнике тоже довольно сложно. Он лишь иногда на крыле будто спускается к нам с Небес… В этом мой замысел: режиссера нет среди нас. Лишь изредка на камне можно увидеть его ускользающий профиль.

**Елена МОЛОЧКО.**

SOS!

## По стане на жнівень 2021 года знешні доўг Беларусі складаў 18,3 мільярда долараў.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Анатолий Шумченко попал в больницу с пневмонией

*У главы недавно ликвидированного общественного объединения «Перспектива» поражено 25 процентов легких.*



*«У меня первые 4 дня температура сбивалась, потом – нет, поэтому я вызвал скорую помощь и поехал в больницу, меня госпитализировали»,* – рассказал Анатолий.

В больнице ему ставят капельницы и делают уколы в живот от тромбоза. По его словам, в палате с ним лежит мужчина, который был вакцинирован «Спутником», но у него также одышка и поражение легких.

Анатолий Шумченко не делал прививку от коронавируса и раньше им не болел.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

Дмитрий ШЕВЦОВ,
главный врач 1-й городской клинической больницы:

# «Сохраните свою жизнь – сделайте прививку!»

*Дмитрий Шевцов рассказал, сколько привитых пациентов сейчас находятся на лечении в клинике.*

«У нас в Беларуси началась очередная волна ковид-инфекции, – *рассказал Шевцов на своей страничке в «Фейсбуке».* – Мы упорно продолжаем игнорировать здравый смысл и призывы пройти вакцинацию. В 1-й клинике г.Минска 209 пациентом с диагнозом COVID, из них только 10 (десять!) человек, которые привиты. И это одни из самых легких пациентов из всех.

Остановите волну ковида! Сохраните свою жизнь – сделайте прививку!»

АВТОРИТЕТНО

Никита СОЛОВЕЙ:

# «Вакцинируйтесь!»



На днях врач-инфекционист **Никита Соловей** опубликовал у себя на странице в «Фейсбуке» свой результат анализа на антитела к COVID-19. Сделал он это спустя почти 6 месяцев после вакцинации с надеждой, что это может помочь сомневающимся в решении вопроса, вакцинироваться или нет. Никита Соловей прививался вакциной Гам-КОВИД-Вак («Спутник V»).

Доктор считает, что российская вакцина свою функцию выполняет на отлично.

*«Об этом свидетельствуют и научные публикации, и отчеты регулирующих органов различных стран, и наш собственный опыт вакцинации сотрудников инфекционной больницы, и единичные случаи появления вакцинированных в стационарах для COVID-19,* – говорит Никита Соловей. – *Равно как работают и другие вакцины.*

*Заболеваемость пошла вверх, стационары вновь постепенно перепрофилируются, тяжело болеют дети и всё более молодые взрослые без каких-либо факторов риска, а в каждом из регионов страны не вакцинированы и 20%. Многие наши пациенты с COVID-19 говорят, что, вернувшись в прошлое, обязательно вакцинировались бы. К сожалению, некоторые из них или инфицировавшиеся от них родственники уже никогда не смогут сделать ни одной вакцины... Подумайте об этом еще раз и примите одно из самых правильных решений на сегодняшний день – вакцинируйтесь!»*

А вот что говорит Никита Соловей по поводу китайской вакцины «Синофарм»: *«Все вакцины защищают от тяжелых и осложненных форм заболевания, сейчас это самое главное. К сожалению, многим заболевшим пациентам до сих пор не можем помочь, как бы ни старались, вирус явно меняется, и старые закономерности перестают работать, а на поиск новых надо время, которого у наших пациентов нет. Гораздо проще предотвратить заболевание, в том числе вакцинацией».*

БЛИЦ

# А вы делали прививку от коронавируса?

Доктор экономических наук **Борис Желиба** старается не поддаваться коронавирусной панике.

– *Я не прививался и не собираюсь,* – говорит Борис Николаевич. – *По правде говоря, не очень я доверяю прививкам. И – тьфу-тьфу-тьфу – второй год уже коронавирусом не болею. Поэтому большого смысла в прививке не вижу. Если заболел бы, то заболел бы давно уже. И маску практически не ношу. В транспорте иногда надеваю, когда много людей. Я вообще стараюсь не загоняться на эту тему. Меры дистанцирования соблюдаю, но тоже без большого фанатизма.*

*Слава Богу, у меня никто из друзей и близких не болел коронавирусом.*

Экс-глава концерна «Амкодор» **Василий Шлындиков** на днях сделал вторую прививку от ковида.

– *Побочных действий на себе не ощутил,* – рассказывает Василий Михайлович. – *В Минске уже снова появилась китайская вакцина – мне кажется, она еще и лучше, тем более она признана Всемирной организацией здравоохранения.*

*Я долго сомневался, колоться или нет. А потом всё-таки решил сделать прививку. Решил: может, и вправду болезнь будет легче протекать, если заболею. Мне, кстати, повезло – я не заразился, хотя дочь и зять переболели.*

Экс-глава Нацбанка Беларуси **Станислав Богданкевич** тоже привился российским «Спутником».

– *У меня жена давно привилась, и старшие дети тоже, один я оставался непривитым,* – говорит Станислав Антонович. – *Я не болел коронавирусом, но, когда везде стали рассказывать, что прививка облегчает течение вируса, это на меня повлияло, и я решился на укол. Побочных действий никаких не было – я даже и не заметил, как меня укололи, совсем не больно было.*

*У меня друг недавно умер – Анатолий Дудкин. Он тяжело болел ковидом, лежал больше месяца в больнице. Потом вроде бы выздоровел, но у него случился микроинсульт. В общем, всё одно к одному...*

**Марина КОКТЫШ.**

ВІНШУЕМ!

Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

# «Радуюся кожнаму дню – не толькі юбілейнаму...»

*Учора вядомы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы адзначыў 75-гадовы юбілей. Народная Воля» павіншавала яго з гэтай датай...*

– Я заўсёды ваюю з юбілеямі, – *шчыра прызнаецца Сяргей Іванавіч.* – У мяне ў адным з вершаў нават ёсць такія радкі:

*Хтось млее на банкетах і прамовах,*
*Дзе змешаны гарэлка і ялей...*
*А мне абрыдлі*
*Два варожых словы:*
*Адно – цэйтнот,*
*Другое – юбілей.*

Ды і часы прыйшлі такія, што не да святкаванняў. Я зараз пасля аперацыі знаходжуся на строгім каранціне, мой хірург-кардыёлаг сказаў так: «Ты, брат, нават не варушыся. Сядзі спакойна дома, пішы і не надумайся бегаць па сваіх тусоўках». Але цяпер і так усё пазакрывалі – бегаць няма куды.

Таму сустрэў юбілей у каранціне і адначасова ў радасці, што ў мінулым годзе напісаў пяць паэм, іх паспелі надрукаваць, а ў юбілейны дзень мне падарылі кнігу «Вечны пароль».

**– А чаму вы так скептычна ставіцеся да ўсіх юбілеяў?**

– І без святкаванняў ведаю, што пражыў дастаткова неблагое жыццё, а таму сёння радуюся іншаму. Найперш – што ў мяне ёсць дзве цудоўныя дачкі, не менш выдатныя ўнук і ўнучка. А ўжо з гэтага вырастае ўсё астатняе – і паэзія, і гэтак далей. Паэзія вырастае ад гэтага неба, ад дзетак, што бегаюць пад акном і шчабечуць.

Таму радуюся кожнаму дню – не толькі юбілейнаму. Устаю рана, кладуся позна. Пацію нешта раблю. Пішу паралельна адразу чатыры кнігі.

**– Як вы сябе пачуваеце ў 75 гадоў?**

– Як ужо казаў, не так даўно мне зрабілі аперацыю на сэрцы, якая цягнулася шэсць з паловай гадзін. З улікам гэтага сёння і жыву, нічым не злоўжываю. Маю на ўвазе не толькі забарону на тытунь і алкаголь. Неабходна здаровае харчаванне і спакойная абстаноўка. Па меры таго, што можна рабіць, я і раблю. Таму кожны дзень, які мне даецца вышэйшай воляй, сустракаю з удзячнасцю і радасцю.

**– Каб захоўваць душэўны спакой, ніадрэнна было б яшчэ і штодзённыя навіны не глядзець і не чытаць...**

– Думаю, наогул стварыць вакол сябе інфармацыйны вакуум немагчыма, але я, напэўна, больш спакойна ўспрымаю тое, што сёння адбываецца ў краіне, чым іншыя.



Справа ў тым, што яшчэ ў 1994 годзе я ведаў, чым усё закончыцца, і публічна пра гэта казаў і пісаў. Нагадваў, што з тымі кадрамі, якія ўварваліся ва ўладу, мы абавязкова прыйдзем да «бананавай рэспублікі». Прыкладна гэта зараз і маем.

Усе тыя філасофскія і чалавечыя роздумы, што я амаль 27 гадоў друкаваў у СМІ, яны, на жаль, практычна ўсе спраўдзіліся. І мне ад гэтага ніякай радасці няма.

З іншага боку, я ніколі не складваў рукі і ніколі не губляў аптымізму. Лічу, што ў гісторыі чалавецтва былі і горшыя часы. Перажылі іх – перажывём і гэта. Я больш спадзяюся на нашу прыродную натуру і сілу беларускага роду. Беларусы ўсё-такі – надзвычай цягавіты народ...

**Алесь СІВЫ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Юрий ВОСКРЕСЕНСКИЙ:

# «У меня была задача отработать в кулуарах...»



*«Народная Воля» расспросила директора информационно-аналитического учреждения «Круглый стол демократических сил» политолога Юрия Воскресенского о том, какие спецслужбы пытались его вербовать на недавнем Экономическом форуме в Польше.*

Поездка Юрия Воскресенского в Польшу вызвала большой резонанс. Многие недоумевали: мол, кто его туда пригласил, кто выдал визу?

*«Они говорили о том, что если ты проведешь в Польше пресс-конференцию, то это будет мировая сенсация, тебе автоматически выдадут паспорт Евросоюза, и ты озолотишься»,* – рассказывал Юрий Воскресенский в программе «ОбъективНо» о том, что происходило в кулуарах форума. По его словам, он отказывал дважды: в первый раз – *«известному политологу»*, во второй – представителям антикризисного управления. Правда, Юрий Воскресенский никаких конкретных фамилий не упоминает.

**– Юрий, а почему вы не назвали конкретных имен тех, кто делал вам подобные предложения?**

– Я хочу, чтобы эти люди сохранили свое лицо. Зачем их лишний раз подставлять? Я эту тему не комментирую.

**– Вы говорили, что вас пытались завербовать...**

– Нет, я так не говорил. Это телеведущий Дмитрий Бочков сказал. Я говорил о том, что мне просто поступило такое предложение – примкнуть к другой стороне. Вербуют агентов, а из меня какой агент с учетом моей коммуникабельности?

**– Дмитрий Бочков хорошо подметил: вы регистрировались на форум как политзаключенный, а уезжали как полковник КГБ...**

– Но я действительно был политзаключенным, это признано всеми правозащитными организациями. А бывший министр внутренних дел Польши Бартоломей Сенкевич заявил, что я полковник КГБ.

**– Глава белорусского КГБ Иван Тертель зарплату вам не предлагал?**

– Ну вот пойду просить, чтобы хоть зарплату дали *(смеется)*.

**– А почему вы не выступали на форуме?**

– Потому что у меня была задача отработать в кулуарах. Зачем мне выступать и агитировать за советскую власть? Я общался неформально с теми, кто понимает, что такое политика, кто заинтересован в нормализации белорусско-польских отношений.

**– А может, надо было взять слово? А то, получается, зря ехали...**

– Зачем? Может, возникли бы какие-то эксцессы, конфликты. Мы нативно продвигаем нашу повестку. Приехали с триумфом и уехали победителями.

**– А в чем заключается ваша победа?**

– В отношении меня готовилась провокация. А если провокация не удалась – значит, я все-таки победитель, к тому же я был не на своей территории.

**– А что вы имеете в виду под провокацией? В эфире рассказывали, что вас якобы собирались зеленкой облить... Откуда у вас эта информация?**

– Я читал их форумы, могу вам скрины скинуть. Там сотни комментариев, узнаете много нового про светлые лица демократии.

**– А почему вы уехали с форума раньше?**

– Я отработал все три дня, но на панель с Латушко не пошел, зная о готовящейся провокации.

**– Руку друг другу не пожали?**

– Я проходил мимо, и он проходил мимо. А вообще по этикету руку должен жать первым тот, кто старше, а Латушко старше меня.

**– Не названы имена тех, кто пригласил вас в Польшу.**

– Официальная версия – что визу мне никто не выдавал, на форум никто не приглашал, и в отель, в котором я жил, никто не заселял. И поэтому, чтобы сохранить людям лицо, я придерживаюсь этой версии.

**– Ну бред же.**

– Я думаю, если бы они узнали, кто меня приглашал, то у них случилось бы кратковременное расстройство здоровья.

**– Так почему вы не называете имен?**

– Я свято соблюдаю договоренности. Но, поверьте, это был высочайший уровень.

**– Столько туману напустили, что точно подумаешь: Воскресенский – агент нескольких разведок. И тому обещал молчать, и этому...**

– Я как Мата Хари, главное, чтобы так не закончить *(смеется)*.

На самом деле вся эта история обнажает скудоумие многих. Говорить, что меня никто не приглашал и всё остальное, хотя все анкеты одобряет организационный комитет.

**– В кулуарах с кем вы общались?**

– С польскими политиками и журналистами, с премьером одной из восточноевропейских стран.

**– Как его имя?**

– Не хочу, чтобы этот премьер потом оправдывался. Я стараюсь, чтобы мое присутствие никому не доставляло беспокойства. Могу сказать, что всех своих целей я достиг.

**– А пресс-конференцию почему отказались провести? Ведь вы могли говорить там о чем угодно.**

– Потому что серьезная международная политика, которая мне сейчас интересна, предполагает не громкие заявления, а тихую кропотливую работу по нормализации межгосударственных отношений. Я это прекрасно понимаю, поэтому никаких пресс-конференций проводить не хочу.

**– Говорили, что ваша поездка в Польшу связана с возможным освобождением Анжелики Борис и Андрея Почобута...**

– С большой долей вероятности могу сказать, что этот вопрос находится на финальной стадии успешного завершения.

**Марина КОКТЫШ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Двайная памылка Сяргея Кавальчука

*Днямі міністр спорту Беларусі раскрытыкаваў тэнісістку* ***Вікторыю Азаранка****, якая адмовілася выступаць на Алімпіядзе ў Токіа. Як кажуць, успомніў пра ўчарашні дзень.*



*«Такія паводзіны не ўпрыгожваюць Азаранка ні як спартсменку, ні як чалавека, ні як грамадзяніна Беларусі*, – распякаў былы супрацоўнік Службы бяспекі прэзідэнта **Сяргей Кавальчук**, які зараз кіруе беларускім спортам, былую першую ракетку свету. – *Гэта непрыемна. Ну як не пазмагацца за гонар краіны? Не дапамагчы ў той момант, калі ў табе маюць патрэбу. Не павесці за сабой маладых, не натхніць іх сваім прыкладам. Тую ж не заўсёды стабільную Арыну Сабаленка. Ды і ўласныя амбіцыі задаволіць і паспрабаваць замахнуцца на тытул двухразовай алімпійскай чэмпіёнкі».*

Славутая тэнісістка пакуль ніяк не адрэагавала на гэты выпад міністра спорту, аднак можна ўспомніць, з чаго ўсё пачыналася.

Пасля выбараў мінулага года, калі людзі выступілі супраць фальсіфікацый падчас выбарчай кампаніі і гвалту з боку сілавікоў, выказалася і Вікторыя Азаранка.

*«Я вельмі люблю Беларусь і малюся, каб усе бакі спынілі гвалт і беспарадкі і перайшлі да мірных перамоў*, – заявіла спартсменка. – *Толькі такім чынам можна вырашыць узніклыя рознагалоссі і вярнуцца да мірнага жыцця».*

Праз нейкі час у інтэрв'ю *NewYork Times* Вікторыя больш падрабязна агучыла сваю пазіцыю: *«Усё, што адбываецца зараз у Беларусі, разбівае мне сэрца. Вельмі сумна і вельмі складана казаць пра гэта. Я толькі спадзяюся, што гвалт неадкладна спыніцца. Я не магу распавядаць пра гэту сітуацыю без слёз на вачах.*

*Спадзяюся, што галасы людзей будуць пачуты. Як я ўжо казала, гэта вельмі складаны прадмет для абмеркавання. І я не хачу нікога пакрыўдзіць або каб мае словы выкарыстоўваліся кім-небудзь у сваіх мэтах. Таму буду рабіць тое, што лічу патрэбным, не прыцягваючы да гэтага ўвагі медыя, якія могуць перакруціць усё па-свойму».*

Пасля гэтага Вікторыя Азаранка заняла нейтральную пазіцыю – не выказвалася з нагоды таго, што адбываецца ў Беларусі, але і не выступала ў нейкіх прапагандысцкіх сюжэтах.

Але для многіх абсалютна нечаканай стала заява спартсменкі, што яна не паедзе на Алімпіяду ў Токіа. Прынятае рашэнне Вікторыя патлумачыла досыць коратка: *«Я прыняла вельмі складанае для мяне рашэнне не браць удзелу ў Алімпійскіх гульнях…»*

Да гэтага часу не вядома, што стала сапраўднай прычынай адмовы тэнісісткі. Гэта маглі быць і траўмы, і жаданне лішні раз не рызыкаваць, каб не захварэць у Токіа на каранавірус, і, магчыма, прыхаваная грамадзянская пазіцыя.

Але, як бачым, для таварыша Кавальчука непрымальны ніводны варыянт, бо Азаранка павінна была і ў сне думаць толькі пра «гонар краіны».

Да яго, відаць, ніяк не можа дайсці, што спартсмены могуць праігнараваць нават спаборніцтвы такога ўзроўню. І зусім не таму, што не любяць Радзіму. У тэнісістаў і лёгкаатлетаў таксама можа быць і гонар, і годнасць, і людзі разумеюць, што насамрэч адбываецца ў краіне. Міністр у першую чаргу і павінен выслухоўваць усіх спартсменаў, знаходзіць падыход да кожнага, а не сядзець у сваім крэсле толькі для таго, каб дзяліць іх на «правільных» і «няправільных» ды кідаць кавалкі з барскага стала тым, хто «адданы» ці ў лепшым выпадку – маўклівы. А нязгодных – ату іх!

У тэнісе ёсць такое паняцце, як двайная памылка. Гэта калі і з другога разу не атрымліваецца падача, і саперніку аддаецца ачко. Як мне падаецца, Сяргей Кавальчук так і не зразумеў, што вынік у спорце можа быць толькі тады, калі ў спартыўнай сям'і лад і згода. Гэта яго першая памылка. А калі дылетант у спорце пачнае павучаць прафесіяналаў, то гэта ўжо двайная памылка і поўны аут.

Правaліліся на Алімпіядзе – дык рабіце ўрокі над памылкамі!

**Алесь СІВЫ.**

SOS!

# Губляем…

*У Гродне пад пагрозай разбурэння апынулася ўнікальная забудова канца XIX стагоддзя – былая кафляная фабрыка. Помнік, які прызнаны гісторыка-культурнай каштоўнасцю, ужо пяць гадоў выстаўляецца на аўкцыёны, а новага гаспадара так і няма. Гістарычная забудова знікае на вачах.*

## Абадраная тынкоўка, дзіркі ў сцяне, асунуты дах…

У XIX стагоддзі, калі Друцкія-Любецкія будавалі кафляную фабрыку, гэта была ўскраіна горада, а зараз – ўзмежжа старога Гродна, які так любяць і гараджане, і турысты. Былая кафляная фабрыка месціцца за чыгуначным вакзалам на вуліцы Чырвонаармейскай і не вельмі прыкметная. Дарэчы, яна паспяхова працавала да Другой сусветнай вайны і нават пасля яе, да 1950 года, а пазней прадпрыемства аб'ядналі з цагельным заводам, і ў выніку ўтварыўся камбінат будаўнічых матэрыялаў, які існуе дагэтуль. У савецкія часы ў будынках фабрыкі знаходзіліся розныя будаўнічыя арганізацыі.

Цяпер, калі праходзіш па вуліцы Чырвонаармейскай побач з былой фабрыкай, робіцца нават страшна. Найбольш трагічна выглядае фасад з боку чыгуначнага вакзала: абадраная тынкоўка, правалены дах, раструшчаная цэгла… У адным месцы яна наогул абвалілася – утварылася дзірка, у якую можа пралезці падлетак. Менавіта ў гэтым месцы шыфер на даху асунуўся і ў любы момант можа адбыцца абвал.

З другога боку забудовы, у двары, у адным з будынкаў дах ужо з'ехаў, шыфер трымаецца на чэсным слове. Пад сценамі валяюцца бутэлькі ад алкаголю. Патрапіць сюды можна без перашкод, а значыцца, да бяды ўсяго крок.

Дарэчы, будынак, як высветлілася, не нічыйны – ён належыць трэсту «Гроднагарбуд». Толькі вось арганізацыя ўжо некалькіх гадоў як банкрут, праходзіць перыяд санацыі, распрадаецца ўся маёмасць. Трэсту відавочна не да былой кафлянай фабрыкі, якую ніхто не купляе.

## «Гэта трагедыя»

Гісторык **Мечыслаў Супрон** упэўнены: гэта вялікая бяда, калі такія помнікі пад пагрозай знікнення. Менавіта яны ўтвараюць у горадзе своеасаблівую атмасферу, надаюць яму больш канкрэтнае ўражанне гістарычнасці. Такі помнік у Гродне ды і ў цэлым у краіне не адзін, і іх трэба ратаваць, каб потым было што паказваць і нашчадкам, і турыстам. Але, на жаль, дзяржава не спяшаецца гэта рабіць.

– *Гарадскія ўлады, выстаўляючы такія аб'екты на аўкцыён, імкнуцца на іх зарабіць*, – сумна заўважае гісторык. – *А варта было б аддаваць іх за адзін рубель тым, хто не пабаіцца набыць і аднавіць.*



Адзін з будынкаў былой керамічнай фабрыкі ў Гродне пасля рэстаўрацыі.

Што датычыцца непасрэдна будынкаў кафлянай фабрыкі, то на пачатку месяца яны былі выстаўлены на чарговы аўкцыён, пачатковы кошт складаў 1,23 мільёна рублёў. На аўкцыён не прыйшоў ніводзін пакупнік. Зараз будынкі фабрыкі прадаюць за 879 тысяч рублёў. Але ці знойдуцца зацікаўленыя набыць будынкі і за такі кошт? Мой суразмоўца сумняваецца. У краіне мала інвестараў з грашыма, а замежныя ў сілу абставін не спяшаюцца ўкладваць грошы ў Беларусь.

З іншага боку, ёсць прыклад, як выглядае адзін з будынкаў комплексу, які гродзенская фірма «Лявута і С» набыла яшчэ ў 2015 годзе. Дырэктар фірмы **Пётр Лявута** публічна распавядаў, што будынак быў у трагічным стане, а праз год пасля набыцця комплекс прызналі гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Не проста было выканаць патрабаванні да рэканструкцыі, паколькі ўсе працы даводзілася ўзгадняць з Міністэрствам культуры. Але цяпер яго можна паказваць як прыклад рэстаўрацыі. Праўда, як заўважае гісторык, гэта хутчэй выключэнне, чым правіла.



Будынкі былой кафлянай фабрыкі на вуліцы Чырвонаармейскай у Гродне.

## А былі планы…

У 2019 годзе Гродна наведаў расійскі шоўмен **Андрэй Разін**. У мясцовых СМІ ён бойка распавядаў, што ягоны тата паходзіць з Гродна і ў свой час нібыта яго радня валодала керамічнай фабрыкай на Чырвонаармейскай. Шоўмен заяўляў, што мае намер набыць гэтую гістарычную забудову, рэстаўраваць і адкрыць там керамічную вытворчасць, наладзіць прамысловы турызм, каб кожны наведвальнік мог сам сабе зрабіць фігурку на памяць, а таксама навучаць дзяцей забытым рамёствам.

Вось толькі планы засталіся планамі, калі гарадскія ўлады паведамілі шоўмену, колькі гэтая забудова будзе каштаваць на аўкцыёне. Разін планаваў атрымаць паўразбураныя будынкі фабрыкі задарма.

У тым самым 2019 годзе гарадскія ўлады хацелі прадаць разам з будынкамі фабрыкі і надзел зямлі (21 сотку), які месціцца побач. Умовы аўкцыёну абавязвалі пакупніка збудаваць на гэтым месцы гандлёва-выставачную пляцоўку для рамеснікаў і народных майстроў, з тым каб арганізаваць тут невялікі рамесніцкі рынак. Ідэя таксама засталася толькі ідэяй. Яе не падтрымалі нават самі рамеснікі.

А што станецца з будынкамі фабрыкі яшчэ праз зіму, калі яны выстаяць? Губляецца нават тое, што ёсць...

**Міхал КАРНЕВІЧ, Гродна.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Бядуюць-плачуцца чынушы, што будуць у гразі па вушы

Камітэт Дзяржкантролю, праверыўшы Полацкі райвыканкам, выявіў, што там занадта часта мыюцца падлога, вокны, сцены, столь. Кантралёры прапанавалі на трэць скараціць колькасць прыбіральшчыц.

Для ўлады нашай, скажам прама,
Цяпер няпростыя часы,
І нат чынам з райвыканкама
Зацягваць трэба паясы.
У Дзяржкантроль – заданне «зверху»:
У выканкамах тут і там
Правесці пільную праверку:
Мо дзе шыкуе выканкам,
Хоць эканоміць трэба сродкі
І скараціць, магчыма, штат,
Бо мы пад санкцыямі ўсё-ткі
І грошай у казне няшмат.
…Не хваляваўся ў час праверкі
Райвыканкама старшыня:
Усе папры і паперкі,
Якія плодзяцца штодня,
Як людзі кажуць, у ажуры,
Прычым гара такіх папер.
А ў кантралёраў від пануры:
Знайсці хоць штосьці быў намер,
Каб напісаць у справаздачы
Пра недахопы хоць чуць-чуць
І іх начальнік зноў убачыў,
Што недарэмна хлеб ядуць.
Ды не сумелі кантралёры
Сур'ёзных выявіць грахоў,
Таму яны і не ў гуморы –
Вымова будзе ад «вярхоў».
І тут уздумаў пахваліцца
Райвыканкама старшыня:
– У нас будынак – як святліца,
Паўсюль пануе чысціня,
Хоць з усяго, лічы, раёна
Сюды прыходзіць рвань ды голь.
Чаму? Бо ў нас амаль штодзённа
Калоны, вокны, сцены, столь
Абслуга мые, а падлогу
Шаруе нават дзень пры дні.
Людзей хапае, дзякуй богу… –
Давольны від у старшыні. –
У калідорах, кабінетах –
Зірніце самі – бляск і шык!
Пашкадаваў аб словах гэтых,
Аб тым, што распусціў язык,
Бо акрыялі кантралёры,
А потым нават ажылі.
– Дык вы, выходзіць, год каторы
Тут жывяце, як каралі! –
Знайшлі нарэшце недахопы
І гнеўна ўсклікнулі яны: –
Да нас бяда ідзе з Еўропы!
Дык чым з дзяржаўнае казны
На прыбіральшчыц траціць грошы
І пачувацца, як князі,
Купілі б лепш сабе галёшы,
Каб не насіць сюды гразі.
Ці, скажам, што датычыць столі.
Нашто так часта мыць яе?
І раз за год было б даволі –
За дзень ніхто не заплюе.
Няма сумнення: неўзабаве
Належны выдасца загад,
І на карысць усёй дзяржаве
Райвыканкам скароціць штат.
Для прыбіральшчыц гэта драма –
Як сон кашмарны ці дурны.
Ды горш чынам з райвыканкама,
Скавычуць, бедныя, яны:
– Мы будзем у гразі па вушы!

***

Засведчыў хай бы Дзяржкантроль,
Што проста лынды б'юць чынушы
І, так сказаць, плююць у столь.

### Новая справа

– Я справу новую адкрыю,
І будзе іншым каленкор:
Разбагацею з той пары я.
– Вы бізнесовец?
– Пракурор.

### Прыкмета даросласці

Так даказваў адзін «грамацей»,
Што дзяўчынкі сталеюць раней:
– Калі стукне дванаццаць гадоў,
У дзяўчынкі ўжо бюст –
Будзь здароў!
Ну а цыцкі-мяшкі ў мужыка
Вырастаюць пасля сарака…

### Не як мама, а як тата

У маладзёна з жонкай – драма:
Надзей было багата,
Што будзе гатаваць, як мама,
А дзеўка п'е, як тата.

